# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

Выходзіць тройчы у тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Востра-Брамская, № 9.

Год I. | Панядзелак, 12 мая 1919 г. | № 7.




## Дайце ім пропуск.

Подаўна жывём мы бяз почты, без телеграфу, без газэт.

Подаўна ня маем пэўных вестак, што дзеецца у ваколіцах Вільні і што дзеецца у чужых краёх.

Прыкра нам гэта, але нічога, пачакаем, калі так трэба.

Подаўна мы галадаем.

Але прадукты ужо прывезены.

Прыкра сядзець у веснавыя вечары з 8-й гадз. ў хаце.

Але і гэта можна выбачыць.

І толькі аднэй драбніцы ніяк нельга дараваць.

А якой — відаць з гэнага пісьма ў рэдакцыю:

„Паданым пісьмом я ад свайго імя, а таксама ад імя многіх іншых асоб, жыхараў розных куткох Расеі, меўшых нядолю прыехаць у Вільню на асабістых, гандлёвых ці іншых справах і непасьпеўшых выехаць адгэтуль назад да ўступу польскай арміі і дзеля таго засеўшых тут да гэтага часу,— зварочваюсь да вас з пакорнай просьбай зьвярнуць увагу вышэйшай ўлады на нашае крытычнае палажэньне. У агуле мы людзі розных нацыяў, безпартыйныя, чужыя да уселякай палітыкі і нічога супольнага з савецкай ўладаю ў Расеі ня маючыя. Шмат хто прыехаў на 2-3 дні, маючы з сабою мала грошы, за 3 нядзелі ужо праедзеныя тут. Страцілі апошнюю сваю капейку і цяпер акінуты на галоднае быцьцё, бо перапускаў на выезд у Расею нам не даюць і помачы таксама ніякай мы ня маем і такім парадкам мы можам саўсім пагінуць.

*Надта цьвёрда просім вышэйшую уладу, каб увайшла у нашае палажэньне і дазволіла нам вярнуцца да нашых сем'яў у Расею, каторыя таксама гінуць там без аніякай помачы, або дала нам помач матэр'яльную харчамі, каб мы не пагінулі з голаду.*

С павaж. **Б. І. Драр.**

8 мая 1919 г.

Цяпер гэткія драбніцы складаюць жыцьцё

Цяпер драбніца — калі чалавек памірае з голаду.

Аднак жа, мы усе яшчэ разумеем, што гэта ня добра.

Дык будзьце-ж ласкавы: дайце ім пропуск!

## ДА ЖЫДОЎСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ.

Блізка што у ва ўсіх літэратурных мовах сьвету ёсьць пісьменьнікі родам жыды.

Адзін з лепшых сучасных пісьменьнікаў і паэтаў беларускіх, вядомы Зьмітрок Бядуля — таксама жыд Вілейскага павету

У творах жыдоўскага клясіка Абрамовіча (Мэндэле Мойхэр Сфорым), што быў родам з Капыля Менскай губэрні, заўсёды чуюцца нашы родныя беларускія зьявы.

Жыдоўскі пісьменьнік Абраам Мапу, пісаўшы свой біблійны раман з ідылічных часоў цара Хізкія і прарока Ісая, маляваў ціхі Бэтляхам быўшы натхненым пекнымі узьбярэжжамі беларускага Нёмна.

Знамяніты жыдоўскі пісьменьнік з часаў „haskola“ (адраджэньня) Перац Смаленскін лічыцца таксама выхаванцам Беларусі.

З Валожынскага (Вілен. губ.) „Ешыбота“ выйшаў знамяніты жыдоўскі паэт Х. Н. Бялік.

У Беларуска-Літоўскім Князьстве высокую дзяржаўную пасаду займаў пярэхрыст (німа чаго дзівіцца, што у тых часах ніхрашчоных ня прыймалі на гэткія службы) Абрам Язэфавіч Рэбічковіч, каторы пры Жыгімонце I дайшоў да пасады падскарбія земскага (міністра фінансаў) і сябра Рады.

Першы пасьля уцёку бальшавікоў з Менску, Сэкрэтарыят Беларускі меў у сваім складзе двох жыдоў: Гутмана (без партфэля) і Белкінда—сэкрэтара фінансаў.

На першым селянскім зьезьдзі у Менску, што быў скліканы Беларускім Нацыянальным Камітэтам 4 га красавіка 1917 г., дэлегатам ад Паўлавіцкай воласьці Магілеўскай губ. і павету, быў жыд Мордух Янкеляў Зільбэрман. Ен там сельскім старастаю ужо 30 гадоў.

Лічу за гонар гэткаю добраю памяткаю пачаць сваю грамату да нашай сучаснай жыдоўскай інтэлігенцыі.

Надыйшлі вялікія часы, калі сьвядомыя беларускія грамадзяне-жыды мусяць безакладна абмеркаваць і ўзважыць свае адносіны да нашага „haskola“ і да будаваньня новага жыцьця на Беларусі.

Надыйшлі вялікія часы, калі рух „беларускага адраджэньня“ выйшаў з тэй пары, што можна было не зважаць на яго.

Бо з ім цяпер шчыльна складаецца *доля усей Беларусі*, а гэта значыць і далейшая доля жыдоўскага грамадзянства на Беларусі.

І беларускія жыды мусяць або працівіцца беларускаму руху або спагадаць і дапамагаць яму.

Якім жа шляхам пойдзе наша жыдоўская інтэлігенцыя?

Спачатку рэвалюцыі, калі беларусы у Менску пачалі выступаць пад сваім ўласным штандарам, гарачэй усіх віталі іх жыды.

З другога боку да апошніх часоў было сярод жыдоў досыць многа і працаўнікаў нашага руху.

Адны з іх, бунтуючы палітыку і і зусім іншую справу, казалі, што ня могуць спагадаць новаму падзелу жыдоў: на беларускіх, украінскіх і г. д., і толькі дзеля того не спагадаюць нам.

Гэтыя ня былі нам варагамі, а цяпер навет, можа быць, і прыхільны да нас, бо наш падзел — разам іхны падзел.

Другія-ж, глаўным чынам партыйная моладзь, інтэрнацыяналісты, лічылі за карысьць ля свайго „інтэрнацыяналу“ варагаваць нам і болей таго— змаганьне з нашым адраджэньнем.

І вось цяпер, калі, па-першаму, і сярод сьвядомай беларускай грамады ёсьць свае прававерныя інтэрнацыяналісты, як і сярод жыдоўскай партыйнай моладзі, а па-другому, калі вялікая ідэя камунізма апаганена сучаснымі „камуністамі“, рэзультатам чаго маем сучасную палітычна-сацыяльную сітуацыю, цяпер і гэным нашым няпрыхільнікам варта абмеркаваць і ўзважыць па новаму свае адносіны да беларускага руху.

Ці будуць яны і далей толькі несьвядомымі русіфікатарамі і разам з тым тормазам ў агульным поступе, ці можа стоючы перад фактам палітычнага і дзеля таго сацыяльнага палажэньня беларускай сялянскай масы, уцямяць нас і ва йменя таго-ж нарэшці інтэрнацыянала, але пэўнага, без прафанацыі і рызыкі апаганіць ідэю, і ва ймя вызваленьня Беларусі з няміручых доўгіх мучэньняў памогуць нам ўсведаміць наш народ нацыянальна (інтэрнацыянальна) і сацыяльна у найлепшым праўдзівым значэньню гэтых слоў?

Камунізм гінець, паміж іншым, таму, што далёка ня кожды пралетарый згаджаецца здыхаць ва ймя яго з голаду.

Што тут трэба? — Або каб ня было голаду, або каб кожды усьвядоміўся аж да згоды памерці за ідэю з голаду ці ад кулі у баю.

І мы, вельмі шануючы праўдзівы інтэрнацыянал, дапраўды не разумеем, каб быццым-то ва ймя яго трэба было згаджацца на наш, да прыкладу, падзел і нічога не рабіць, каб скончыць навекі

гэткае жыцьцё старонкі, дзе жывём, што яе заўжды талуюць, топчуць, абдзіраюць і гваптуюць як хоця.

Ратунак мы бачым у адраджэньню свайго народа, якое і кладзе, як мы уважаем, пэўны падмурак палітычна-сацыяльнаму усьведамленьню.

Ратунак мы бачым, пры сутуацыі нашых дзён, ў вольнай, незалежнай і непадзельнай Беларусі.

І калі наша жыдоўская інтэлігенцыя, абмеркаваўшы і узважыўшы, праканаецца, што дарога наша справядлівая, нікому ня шкодная і можа выратаваць Беларусь, як частку сусьветнай федэрацыі, мы горача заклікаем яе, заклікаем беларусаў-ізраэлітаў да супольнай працы.

**N.**

## З польскіх газэт.

Тыднявік „Rząd i Wojsko" ў № 17 між іншым піша:

„...Дзеля чаго мы пачалі вайну з бальшавікамі? Ці каб забіраць ды заваёвываць? Ці каб пашырыць польскую ўладу над старонкай, дзе ёсьць толькі польская меншасьць дый глаўным чынам маетная кляса? Ці каб даць ёй магчымасьць панаваць над іншымі нарoдамі, якія жывуць у гэтай старонцы? Ці можа, каб вызваліць усе народы гэтай зямелькі, каторыя маюць аднальковае права пачуваць сябе і быць уласьнікамі і гаспадарамі гэтага краю,— кабы даць усім гэтым народам аднальковыя правы і аднальковыя варункі вольнага ды свабоднага разьвіцьця? Каб паклікаць усе народы гэтай зямлі будаваць у згодзе супольную хату ўласнай дзяржаўнасьці?

„На гэтыя пытаньні трэба даць адказ. Трэба ясна сцяміць, у якой ролі ўвайшоў польскі жаўнер у Літву. Ці як гэтакі, каторы сваім штыхом будзе чысьціць дарогу дзеля польскай калёнізацыі? Ці йдзе ён, як запраўдны абаронца і асвабадзіцяль з ярма усіх народаў? Першая мэта ня гожа польскаму жаўнеру, бо ўрэшці ён зрабіўся-б слугой і прыладай у руках польскіх „зубраў" — вялікіх землеўлаўсьнікаў, якія, быў час, крэпка трымаліся за нямецкія штыхі і, карыстаючыся імі, вялі барацьбу з сялянамі.

„Калі-б мы йшлі ў Літву, каб толькі падзяліцца ёю з Расеяй—мы-б зрабілі страшэнную абмылку і злачынства. Наш уваход у Літву быў-ба гэтакім самым абрыдлівым нападам, як бальшавіцкі. Яны хацелі накінуць сваю волю паляком і ліцьвіном, а мы-б накідалі яе ліцьвіном і беларусам.

„Наш салдат нясе вызваленьне усім народам Літвы. Дзеля таго наша палітыка павінна быць гэтакай, каб цяпер Вільня зробілася такім местам, дзе палякі, ліцьвіны, беларусы, латышы, эстонцы раілі-б аб стварэньню сувязі народаў, якія жывуць на абшары былш. В. Князьства Літоўскага і так званага Надбалтыцкага Краю"...

Дзякуй Богу, с польскага боку мы почулі тое, чаго даўно чакалі. Гэтыя словы—маюць вялікую вагу. Яны пачынаюць новую фазу ў беларуска-польскіх адносінах.

На жаль—гета ёсьць словы толькі лепшай часткі польскага народу. Каб гэта быў голас усяго польскага грамадзянства, пытаньне аб палітычных адносінах у нашым Краі было-б ужо можа разьвязаным.

**Ф.**

### Нягодны кірунак.

Польская газэта „Dziennik Wileński" начынае пабіваць рэкорд неталерантнасьці, чалавеканялюбства і пашырэньня «нехрысьціянскіх» тэндэнцый.

У № 15 з дня 7 мая чытаем у стацьці «Co się dzieje w Mińsku?» вось што. Duchowieństwo polskie jest specjalnie terroryzowane. Dużo księży zostało aresztowanych. Zuchwalstwo żydów dochodzi do tego, że w czasie nabożeństwa stają oni uzbrojeni przy ambonie i słuchają kazania. W razie uznania jego treści za szkodliwą, księża zostają aresztowani". На гэта можэм адказаць, што закід, быццым жыды з аружжам стаяць у касьцёлі,—адна злосная выдумка. Больш чым 10 асоб прыехала у Вільню з Менска, з каторых усіх лічыць можна за „gorliwych, praktykujących katolików" і усе яны на нашые запытаньня заяўляюць, што нічога падобнага ня было і німа.

На што гэтае цкаваньне аднэй часьці грамадзян процiў другой? Ці гэта паводлуг навукі Хрыста: «любіце непрыяцеляў вашых і выбачайце ім віны, як хочаце, каб і яны вам выбачылі".

Пара бы ужо кінуць газэці „Dziennik Wileński" гэты зоологічны шовінізм і падумаць аб тэй маральнай адпаведзяльнасьці, якую бяруць яны на сябе, навучаючы ненавісьці мала інтэлігентныя і цёмныя масы жыхароў Вільні, каторыя ведаюць, што газэту выдаюць і пішуць ксяндзы і вераць ім быццым славам Евангелія.

## Новая газэта.

У пятніцу 9-га мая выйшаў першы нумэр штодзенный жыдоўскай газэты „Тог" (дзень).

Газэта безпартыйная, кірунак дэмократычны.

Сярод супрацоўнікаў есьць вядомыя імёны: *Анскі*, *Нігер*, Рэйдзін, доктар Шабад і інш.

У першым нумару, паміж іншым, надрукован сьпіс грамадзян-жыдоў, забітых у часе апошніх віленскіх падзей.

Пакуль што адкопана 55 трупаў.

У сьпісу—колькі старых людзей (50—60 г.г), ёсьць нават дзеці.

Забіт вядомы жыдоўскі пісьменьнік Вейтэр.

Апрача таго, надрукована рэзалюцыя Жыдоўскага Кагала, напісаная сходам 6-га мая.

Кагал войстра пратэсуе проціў тых нялюдзкіх падзей, што перабыло віленскае жыдоўскае насяленьне за апошнія дні.

Кагал вымагае, каб скончыўся уціск, каб была незачэпнасьць грамадзян, каб ня зьдзекаваліся над жыдамі, каб былі адносі-

## ПАМЯТКА.

*(Гл. № 6.).*

На моцы гэтых хартыяў беларускалітоўскі гаспадар (князь) з канца XV-га веку быў ужо не самадзяржаўны уладар, а абмяжованы радаю і згодаю паноў — рады, а з часу выданьня статутаў 1529 і 1566 г.г. і ухвалами ўсіх станаў шляхты, скліканых на Вялікі Вальны Сойм.

Такім чынам, у змаганні Масковіі з Беларуска-Літоўскім Княжствам бароліся два прынцыпы: прынцып самадзяржавія і абсалютызму з прынцыпам конституцыяналізму. Гісторыя сьведчыць, што ў гэтым змаганні арганізацыя, пабудаваная на прынцыпе абсалютызму, брала перавагу, і Беларуска - Літоўскае Княжства, каб абараніцца ад Масковіі, каторая несла з сабою абсалютызм і татарскае барбарства, змушана было падпісаць трактат злучэння з Польшчай, аб каторым успаміналася вышэй. Але подлуг Люблінскай вуніі абедзьве дзяржавы, Беларусь-Літва і Польшча, злучаліся ў адну рэспубліку на падставе роўнасьці. Кожны край захаваў сваё войско, свае фінансы, сваё судовае і мейсцовае самасправаваньне, толькі з супольным соймам для абедзьвух старон.

Але гэты хаўрус, адсунуўшы на нейкі час маскоўскую небяспеку, быў згубай як для Польшчы, так і для Беларусі-Літвы. Цалякі не здавольніліся актам хаўрусу, а сталі намагацца апалячыць і акаталічыць праваслаўнае насяленне Літвы Беларусі. Пачалася рэлігійна-нацыянальная барацьба. Націск палёнізацыі і каталіцызму прымусіў згуртавацца проціў яго праваслаўнае насяленне. Але палёнізацыя ўсё-ж такі патрапіла зрабіць сваё дзела. Большая частка шляхты і вяльможнага панства перайшла з праваслаўя, або з лютэранства, каторае ў той час мела вялікае пашырэньне на Беларусі, ў каталіцтво. Пераход у каталіцтва станавіўся разам з тым і пераходам у стан польскай культуры і мовы. Багатыя станы пакідалі свой народ, сваю мову, веру і культуру, прымалі каталіцтва і апалячываліся, тым больш, што за гэта яны надзяляліся рознымі прывілеямі. Але меськае мяшчанства моцна трымалося за сваю нацыянальнасьць і веру. Сялянство толькі пад прымусам прымала каталіцтва. Усе сілы багатай культурнай нацыі аддаваліся на барацьбу рэлігійную і нацыянальну. Каб пагадзіць і уціхамірыць гэтую страшэнную варажнечу, у 1 96 г. быў падпісан акт царкоўнай вуніі, або злучэнныя праваслаўнай цэркві з каталіцкай. З гэтага часу вуніяцтва стала нацыянальнай верай беларускага насяленьня. Вуніяцтва бараніла народ ад палёнізацыі і каталіцтва і умацовывала нацыянальную беларускую культуру. Пры вуніяцкіх царквах і манастырох закладаліся беларускія школы, а самае набажэнства адпраўлялася па-беларуску.

Але палёнізацыя мела свой усьпех. Польская культура і мова запанавалі сярод вышэйшых станаў грамадзянства, каторыя такім чынам адрываліся ад рэшты народу. Дайшло да таго, што з другой паловы XVII-га веку навет беларуская мова пачала выціскацца з судоў, з урадавых установаў, з законаў і замянялася языком латынскім, або языком польскім. Каля 1697-га году Літоўскі статут быў перакладзены на польскі язык, якобы затым, што беларуская мова недаступна гэнію польскаму. Разумеецца, пры такіх варунках беларускае насяленьне не магло прыхільна ставіцца

ны па праву, каб грамадзяне-жыды маглі ужо спакойна працаваць.

Затым Кагал дамагаецца, каб вярнулі назад у Вільню усіх жыдоў, высланых па даносу, без суда і сьледства.

Каб створана была такая поўнамочная камісія, каторая дала-б магчымасьць невінаватым арыштованым юрыдычна давесьці сваю невінаватасьць.

Каб без адкладу выпусьцілі на волю такіх арыштаваных, якіх ніхто ня можа фактычна абвінаваціць.

Каб рупіліся шукаць разьнесеную грабежнікамі маемасць і каб паззалі ў суд грабежнікаў.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## ВЕСТКІ З ФРОНТУ.

На ўсход ад Вільні польскае войска заняло *Солы*.

Бальшавікі пакінулі *Смаргонь*.

На працягу больш за 60 вярстоў ад Вільні бальшавікоў ужо няма.

На паўночна-ўсход ад *Шырвінтау* польскае войска спаткалася з бальшавікамі і пагнала іх далей.

На ўсей лініі фронту бальшавікі адступаюць.

### Што дзеецца у Менску?

Правіант і амуніцыю бальшавікі ужо вывезлі у Смаленск.

Арыщты закладнікаў яшчэ ня скончыліся, але унесьлі непаразуменьне паміж саміх бальшавікаў.

Савецкія домы—гасьцініца „Эўропа“ і б. дом губэрнатара ужо ачышчаны.

Дысцыпліна сярод чырвонаармейцаў псуецца.

«Чрэзвычайка» ужо выехала.

Большавікі надта баяцца, што легіёны глубока абойдуць іх з боку Бабруйска.

### Урадовая заява.

Генэральны Камісар Усх. Зям. заявіў, што Польскі Урад ніякіх абавязкаў камуністычнай улады, як безпраўнай і напаўшай на наш край, на сябе ня прыймае.

### Напад на коаліцыйную місыю.

Пасьля апавяшчэньня варункаў міра 5.000 нямецкіх салдатаў акружылі ў Коўне будынак, у каторым памяшчалася коаліцыйная місыя і зрабілі варожую деманстрацыю. Напад быў зарганізаваны. Місыі ледзь удалося уцячы з Коўны. Послалі тэлеграмы да дзержаў Антанты аб гэтым гвалце над міжнароднымі ўставамі. (Nasz Kraj).

### Незалежнасьць Эстоніі.

Мірная канфэрэнцыя і Антанта прызналі незалежнасьць Эстонскаго народа і Эстонскай рэспублікі.

## Канец бальшавізму.

### У Расеі.

Бальшавіцкая армія на ўсенькім сыбірскім фронце ў безпарадку адступае.

### У Венгрыі.

У Будапэшці камуністы згодзіліся на ўсе варункі Антанты. Войска Антанты ўжо заняло сталіцу Венгрыі.

## Арышт Яна Станкевіча.

У суботу 10-га мая прадстаўнікі польскай ўлады арыштавалі вядомага беларускага дзеяча нацыяналіста Яна Станкевіча.

Арышт вельмі зьдзівіў віленскіх беларусаў і зрабіў на ўсіх надта дрэннае уражаньне.

Віленская Беларуская Рада робіць самыя рашыцельны крокі, каб Яна Станкевіча безадкладна выпусьцілі.

Яна давадалася што Ян Станкевіч будзе выпушчаны пасьля атрыманьня адказу на тэлеграму, адбітую ў Варшаву п. Юзэфу Пільсудскаму.

Дагэтуль нікому з беларусаў невядома, якія прычыны арышту і якое мае быць абвінавачаньне.

## Сярод паноў.

### Зьезд польскіх панскіх радаў.

Зьезд зачыніўся. У пытаньні аб далучэньню Беларусі і Літвы да Польшчы аднадушнасьці ня было. Прадстаўнікі паехалі у Варшаву рабіць даклад аб „палажэньню спраў на месцу“. У Вільні гэны зьезд добрага выгляду ні ў чыіх вачох ня меў. Усяго было паноў—22.

### „Мураўёўцы“.

9-га мая адбыўся на Партовай вуліцы сход жменькі так званых „мураўёўцаў“. Прыйшоў б. губэрнатар Вяроўкін, 2 б. маршалкі шляхты і інш.

Духавенства пакуль што яшчэ рымсьціць і на сходзе ня было, ня гледзячы на запрашаньне.

Сярод „мураўёўцаў“ азначылісь два кірункі: адзін за Варшаву, другі—процiў.

Трошку пасварыліся за „улезаньне

---

да утворанага саюзу з Польшчай, з тою Польшчай, каторая несла з сабою не дапамогу проціў Масковіі, а нацыянальную сьмерць.

Скончылося тым, што ў канцы XVIII-га сталецца злучаная польска-літоўска-беларуская рэспубліка, вядомая пад агульным найменнем *Рэчпаспалітая*, была зруйнована. Яна была падзелена паміж суседнімі дзяржавамі, як Прусія, Аўстрыя і Расія. Беларусь была аканчацельна прылучана да Расіі ў 1793 г. на моцы згоды, падпісанай у Горадне. Гэтую згоду падпісала Маскоўская царыца Катарына II як ад сябе, так і ад сваіх насьледнікаў, дакляруючы захаваць на вечныя часы ў прылучаных да Расіі беларускіх землях усе правы і вольнасьці паводлуг звычаяў і прывелеяў гэтага краю. Але урачыстыя абяцанкі, што даваліся Беларускаму народу, ня былі датрыманы, бо самадзяржаўная Расія і не гадала спаўняць тое, што абяцала перад ўсім сьветам. Праўдзівыя мэты Расіі ў адносінах да Беларусі можна бачыць у лісьце царыцы Катарыны II да графа Разумоўскага, ў каторым яна гаворыць аб пасгуповай русіфікацыі. На другі год па прылучэнні Беларусі да Расіі пачаліся абмежаванні правоў і вольнасьцяў беларускага народу. У 1795 г. пашырылі на Беларусь моц закону, ваданага Петрам I у 1720 г. для Украіны і забаранілі друкаваць у беларускай мове Пісьмо Сьвятое і рэлігійныя кніжкі. Пачаўся уціск нацыянальнай беларускай вуніяцкай цэркві: царкоўныя маетнасьці былі конфіскованы, вуніяцкія манастыры зачыняліся, царкоўныя кніжкі „літоўскага друку“, як называлі маскоўцы палілі-ся, вуніяцкіх сьвяшчэннікаў каралі, ссылалі ў Сібір, або ў глыб Маскоўшчыны, вуніятаў гвалтам наварачалі у праваслаўе і т. д. Нарэсьце цар Мікалай I у 1839 г. маніфэстам абвесьціў грэцка-каталіцкую (вуніяцкую) веру няістнуючай і зацьвердзіў гвалтоўны наварот вуніятаў да праваслаўнай маскоўскай цэркві. У гэтым жа самым часе ён забараніў царкоўныя казаньні і выкладаньне навук ў школах па беларуску. Як рэакцыя, пачаўся масавы пераход вуніятаў у каталіцтво. У 1864 г. было наагул забаронено друкаваць кніжкі у беларускай мове.

Расійскі урад, жадаючы у палітычных мэтах русіфіцыраваць беларусаў, дакладаў вялікіх заходаў да таго, каб абмаскаліць беларускі народ праз маскоўскую школу, цэркаў і вайсковую службу. Апрача таго, Беларусь была напоўнена маскоўскімі чыноўнікамі і папамі, каторым расійскі Сынод да апошняга часу плаціў падвойную пэнсію, як „місіянэрам“. Лічба школаў, пачынаючы з 1840 г., зьменшылася на чвэрць. Паншчына сялян была асабліва змоцнена на Беларусі. Селянін быў прыкуты да зямлі, а пан адтрымаў права караць падданага і нават ссылаць у Сібір. Надаючы гэтакіх правоў над сялянамі паном, расійскі урад дасягаў двух мэтаў: з аднаго боку паны праймаліся спачуццем да нового ураду, а з другага — маскоўскаму царызму лёгка было давесьці спакутаваму народу, што яго гора выходзіць ад „польскіх“ паноў і што збаўленьне сваё ён можа знайсьці толькі ў прыхільнасьці да маскоўшчыны. Рэч у тым, што ў гэтыя часы большая частка вышэйшага беларускага ста у (шляхецтво) прыняло польскую культуру. Такім чынам, беларускі народ разьбіваўся па два страшныя варожыя станы, а русіфікатарская школа адбірала ў народу і яго інтэлігэнцыю.

*(Далей будзе).* **Язэп Л—.**

